**№ 110 (462)**

Чацвер, 18 чэрвеня 1998 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Перыядычнасць — 5 разоў
у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 3000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.


# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб Колас**



**Сонца**

| | Усход | Захад |
|---|---|---|
| Віцебск | 4.18 | 21.42 |
| Магілёў | 4.26 | 21.32 |
| Гомель | 4.32 | 21.21 |
| Мінск | 4.36 | 21.43 |
| Гродна | 4.53 | 21.57 |
| Брэст | 5.03 | 21.48 |

*Апошняя квадра 17 чэрвеня.*



**Кто — куда**

## Александр Лукашенко — в Египет, Станислав Богданкевич и Юрий Ходыко — в Америку

Один из лидеров Белорусского народного фронта Юрий Ходыко и председатель Объединенной гражданской партии Станислав Богданкевич 16 июня 1998 года начали поездку по Соединенным Штатам Америки. Их визит организован Международной лигой прав человека — офисом Хартии-97 в Нью-Йорке.

В программе визита, который окончится 19 июня, несколько "круглых столов", посвященных ситуации в Беларуси, брифинги для прессы, посещение Государственного департамента, международных организаций, Академии наук, Центра международных исследований имени Вудро Вильсона, а также брифинг в комиссии Конгресса США по ОБСЕ. Экономист Станислав Богданкевич также встретится с руководством Всемирного банка и Торговой палаты США.

Член оргкомитета Хартии-97 Юрий Хащеватский получил премию Нестора Альмендоса за лучший документальный фильм года на международном кинофестивале, организованном правозащитной организацией Human Rights Watch. Церемония награждения состоялась 14 июня в Нью-Йорке. В течение недели после вручения премии состоятся несколько просмотров фильмов в различных правозащитных и международных организациях с обсуждением ситуации в Беларуси. В том числе "Обыкновенный президент" будет показан 18 июня в Сенате США. После просмотра там также пройдет дискуссия о положении в Беларуси. До этого фильм был показан в Линкольн-центре и в других престижных кинозалах Нью-Йорка, Вашингтона и Бостона при полных аншлагах.

**Пресс-центр Хартии-97.**

## Очень дорогое торговое место

Борис Ханонович Хамайда торгует газетами возле так называемого "Синего дома". Место людное, бойкое — как-никак автобусная и троллейбусная остановка в самом центре Витебска. А с учетом "улучшения" работы общественного городского транспорта на 20 процентов по сравнению с соответствующим периодом прошлого года (как пишут государственные газеты) — здесь собираются огромные толпы людей.

Иногда Борис Ханонович позволяет себе водрузить на грудь плакатик с патриотическим текстом — как на этом снимке. За это ему иногда приходится терпеть плевки в лицо от "благодарных" граждан, иногда и в каталажку забирают. Однажды Борис Ханонович написал на плакате "Я люблю Беларусь". За это его сразу же загребли в воронок и повезли судить. Однако судья на этот раз нормальный попался и сказал: "Я разрешаю ему любить Беларусь". И его отпустили.

Но такое бывает редко. Чаще всего сажают и по-дикому штрафуют. За право быть почти свободным Борис Ханонович уже отсидел 28 суток и получил 110 миллионов штрафа.

Так что место это хоть и хорошее, но очень уж дорогое.

**Сергей ПЕТРЕНКО.**
г.Витебск.

**Сравним!**

## Политик, высказавшийся против предпринимателей, не имеет в Германии будущего. А в Беларуси?

В Минске завершила работу белорусско-германская конференция "Роль государства в обеспечении свобод граждан и в развитии СМИ в Беларуси и Германии". Организаторами конференции стали Фонд имени Фридриха Эберта, Международный образовательный центр, Исследовательско-аналитический союз.

В работе конференции приняли участие депутаты бундестага И. Шефе-Герик, У.Цаиф, посол ФРГ в Беларуси д-р Х.Винкельман, представители Социал-демократической партии, Объединенной гражданской партии, Свободных профсоюзов, пока юридически не оформленного Гродненского профсоюза предпринимателей, которому государство создает препятствия в регистрации вот уже на протяжении четырех месяцев, а также известные политики, ученые, общественные деятели и журналисты. Основные темы, обсужденные на конференции, касались роли политических партий, неправительственных организаций, профсоюзов и СМИ в политических системах ФРГ и Республики Беларусь.

На мой вопрос к депутатам бундестага о том, какая партия представляет в Германии интересы предпринимателей, был получен неожиданный ответ: "Предприниматели — основа немецкого государства, и каждая партия соревнуется за завоевание их доверия". В частных разговорах депутаты пояснили мне, что политик, высказавшийся против предпринимателей, не имеет в Германии будущего, а чиновники всячески помогают открытию и развитию дела предпринимателя. То, что совершают наши чиновники в отношении предпринимателей, подпадает в Германии под действие Уголовного кодекса. А указы и нормативные акты, парализующие предпринимательскую активность, вообще оказались вне сферы понимания немецких граждан. Есть над чем задуматься...

**Валерий ЛЕВОНЕВСКИЙ.**

**На снимке:** *участники конференции — (слева направо) автор этих строк В.Левоневский, депутаты бундестага И.Шефе-Герик, У.Цаиф и посол ФРГ в Республике Беларусь д-р Х.Винкельман.*

**Незалежная экспертыза**

*Уладзімір КУЛАЖАНКА, доктар эканамічных навук, прафесар*

## Чаму Беларусь не славіцца сваім ільном-даўгунцом?

Нішто так не характарызуе крызіс калгасна-саўгаснай сістэмы Беларусі, як заняпад ільнаводства. Яшчэ 10 год таму пасяўныя плошчы льну-даўгунцу дасягалі 240 тысяч гектараў, а зараз зменшыліся больш чым у тры разы. Беларусь згубіла сваё лідэрства ў гэтай галіне. Летась ураджай ільновалакна склаў толькі 3,6 цэнтнера з гектара. А ў гэты час у краінах Еўрапейскага саюза, дзе пасяўныя плошчы льну толькі крыху большыя за пасевы ў Беларусі, атрымліваюць па 15,3—16,2 цэнтнера льноволакна.

Тым не меней Беларусь была і можа застацца адной з вядучых краін-экспарцёраў ільновалакна. На жаль, за апошнія тры гады яго вываз рэзка знізіўся. Яшчэ тры гады таму льновалакно экспартавалася аж у 15 краін, а зараз толькі ў 10. Калі ў 1994 годзе Францыя закупіла ў Беларусі дзве тысячы тон ільновалакна, то ў 1996—1997 гадах — ніводнай тоны. Згортваюць закупкі льновалакна Польшча і Чэхія. Толькі разавыя, як бы разведвальныя на якасць, закупкі невялікіх партый ільновалакна зрабілі летась Балгарыя, Італія, Іспанія, Люксембург, Турцыя, Фінляндыя.

Чаму зніжаецца зацікаўленасць замежных імпарцёраў беларускай ільнопрадукцыяй? Найперш гэта тлумачыцца тым, што на Беларусі нізкая якасць ільносыравіны. Сярэдні нумар ільнотрасты — 0,9—1 пры выхадзе доўгага валакна пасля першаснай пераапрацоўкі каля 30 працэнтаў. Між тым гэты паказчык удвая лепшы ў краінах Еўрапейскага Саюза, а нумар трасты там — не адзінка, як у нас, а 2,5—3.

У гэтых умовах, губляючы пакупнікоў ільновалакна на Захадзе, даводзіцца карыстацца паслугамі Усходу. Расія разам з Літвой купляюць у нас больш за 80% экспартуемай ільнопрадукцыі. Гэта не зусім выгадна для беларускіх ільнаводаў, бо ў Расіі больш нізкія цэны на льновалакно ў параўнанні з цэнамі на Захадзе.

У чым справа, чаму зніжаюцца пасяўныя плошчы пад ільном, а якасць валакна застаецца нізкай? Па-першае, таму што вельмі нізкія закупачныя цэны на трасту — 70 долараў за адну тону першага нумару. Спецыялісты лічаць, што плаціць трэба хоць бы столькі, колькі ў Літве, — 140 долараў. А яшчэ лепш, як у Расіі, — 200 долараў. Як можна вырошчваць лён, калі летась за адну тону трасты першага нумару плацілі меней (2 мільёны 780 тысяч рублёў), чым за адну тону бульбы (3 мільёны 577 тысяч рублёў). Нават гаспадаркі, што спецыялізаваліся на льнаводстве, як напрыклад, калгас "Перамога" Баранавіцкага раёна, які са сваёй прадукцыяй раней выходзіў нават на знешні рынак і атрымліваў у асобныя гады па 100 тысяч долараў за экспарт, пачалі згортваць галіну спецыялізацыі.

Па-другое, у цяжкім эканамічным стане знаходзяцца ўсе 54 льнозаводы. Невыпадкова, што многія з іх уключаны ў спісы на прыватызацыю. Фізічны і маральны знос асноўных вытворчых фондаў ільноапрацоўчых заводаў, мякка кажучы, надзвычай высокі. Тэрмін эксплуатацыі тэхналагічнага абсталявання чатырох пятых айчынных ільнозаводаў складае 10—15 гадоў пры норме 7 гадоў. Адсюль зніжэнне якасці прадукцыі, рост матэрыяльна-грашовых выдаткаў і падзенне канкурэнтаздольнасці айчыннай ільнопрадукцыі на знешнім рынку.

Па-трэцяе, на калгаснае і саўгаснае льнаводства адмоўна паўплывалі несвоечасовыя разлікі льнозаводаў за здадзеную прадукцыю. Даводзілася чакаць па году. Тут спрацаваў цэлы ланцуг адмоўных з'яў. Частку сваёй прадукцыі льнозаводы пастаўляюць на Аршанскі льнокамбінат, які з'яўляецца манапалістам і дыктуе льнозаводам нізкія закупачныя цэны на льновалакно, а ў дадатак яшчэ і затрымлівае аплату паставак.

І вось калі льнаводства ў рэспубліцы было дабіта, як кажуць, да ручкі, грымнуў гром. Ужо падчас веснавой сяўбы адбылася рэспубліканская нарада па льнаводству. Яна з'явілася яшчэ адным узорам таго, як спачатку справа дзе-небудзь завальваецца, адкатваецца далёка назад, а потым уздымаецца вялікая шуміха па аднаўленні ці адраджэнні былога ўзроўню.

Хто вінаваты ў цяжкім стане льнаводства? Канешне, нехта крайні. І прэзідэнт назваў гэтых крайніх. Па яго словах, гэта ўпушчэнне ў рабоце Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання, органаў улады на месцах і кіраўнікоў гаспадарак. Праўда, Аляксандр Лукашэнка ў сваім выступе ўскосна назваў і асноўную прычыну заняпаду льнаводства — нізкія закупачныя цэны. Ён паведаміў, што сёлета цэны на льновалакно значна павышаны. За тону льновалакна будзе выплачвацца сума, эквівалентная 1100 долларам ЗША. Гэта, пэўна, добра. Але, можа, гэтую няроўнасць эканамічных умоў вытворчасці трэба было ліквідаваць раней, а не чакаць, калі ўсё трэба будзе пачынаць з нуля. Гэта ж не жарт, калі летась у некаторых раёнах, паводле паведамлення цяперашняга міністра сельскай гаспадаркі і харчавання Івана Шаколы, пад ільном было занята менш за адзін працэнт пасяўных плошчаў, а ў многіх гаспадарках лён звялі наогул.

Праўда, дае нейкую надзею на адраджэнне льнаводства тое, што ў краіне яшчэ захаваліся кадры льнаводаў: на дзіва, ёсць гаспадаркі-маякі, напрыклад, калгас 1 Мая Дзятлаўскага раёна, дзе летась атрымана па 13,6 цэнтнера льновалакна з гектара. Гэта нядрэнны, нават еўрапейскі ўзровень. Старшыня гэтага калгаса Васіль Сцяпура падзяліўся на нарадзе вопытам. Але вопыт вопытам. Для яго ўкаранення патрэбны тэхніка і матэрыяльныя рэсурсы, якіх, на жаль, сёння няма.

Між тым рубяжы развіцця льнаводства названы высокія. Сёлета трэба атрымаць 50 тысяч тон ільновалакна, а у 2000 годзе выйсці на ўзровень 60 тысяч тон. Гэтыя лічбы назваў Аляксандр Лукашэнка. Пры гэтым прэзідэнт неаднаразова падкрэсліваў, што лён павінен стаць асноўнай экспартнай культурай краіны. Правільна, павінен. Але ж былі заклікі, каб і мяса ды малако выпрацоўваліся на экспарт. Ды штосьці не атрымліваецца. Не хапае моцы. Нешта падобнае ўзнікае і з праблемай росту вытворчасці льну. Аляксандр Лукашэнка падкрэсліў, што сёлета ўпершыню прымаюцца значныя меры для фінансавага ўмацавання льнаводчай галіны. На стымуляванне вытворчасці льну з бюджэту выдзелена сёлета 280 мільярдаў рублёў. Калі ў мільярдах рублёў, то гучыць, а калі перавесці ў валюту (а гэта толькі 5,6 мільёна долараў) — не надта. Думаецца, што больш значнай эканамічнай мерай з'яўляецца рашэнне ўрада прадаставіць крэдыты льнасеючым гаспадаркам на палову кошту закупаемай сыравіны. Але ёсць небяспека, што гэтыя крэдыты могуць стацца чыста эмісійнымі.

Трывожыць таксама тое, што льнаводчую праблему кіраўніцтва краіны збіраецца вырашыць без эканамічных рэформаў, чыста адміністрацыйнымі метадамі. Калі генеральны дырэктар Аршанскага льнокамбіната Валерый Шаткоў прапанаваў не праводзіць акцыяніраванне кіруемага ім прадпрыемства і захаваць за ім статус дзяржаўнага, то Аляксандр Лукашэнка адразу падтрымаў гэтую ідэю, бо, відаць, прыйшлася па душы.

На нарадзе ў кірунку ўзмацнення адміністрацыйнага рэгулявання сур'ёзна абмяркоўвалася праблема ператварэння Аршанскага льнокамбіната ў холдзінгавую кампанію ці стварыць вытворчае аб'яднанне "Лён". Словам, ёсць жаданне зрабіць ільнаводства самастойнай галіной, са сваім ведамствам і пад пільным вокам дзяржавы. Урад атрымаў заданне ў двухмесячны тэрмін прыняць аптымальнае рашэнне.

У цэлым нарада прыйшла да высновы аб неабходнасці стварэння мэтавай дзяржаўнай праграмы па льнаводстве. Такіх безвыніковых праграм было ўжо нямала. Каб не напаткаў толькі такі ж лёс і льнаводчую праграму.

**Памежжа**

## "Памочнікам" нелегалаў не пазайздросціш

Спроба двух беларускіх грамадзян дапамагчы дзесяці жыхарам Афганістана незаконна перайсці беларуска-ўкраінскую граніцу каштавала ім буйных матэрыяльных страт.

Як паведамілі ў прэс-службе Дзяржкамітэта пагранічных войскаў, народны суд Добрушскага раёна, вывучыўшы матэрыялы крымінальнай справы ў адносінах да С.Грамыкі і В.Юр'ева — аб наўмысна незаконным перасячэнні дзяржаўнай граніцы па папярэдняй змове групы асоб, прыгаварыў кожнага з арганізатараў гэтай аперацыі да штрафу 6 мільёнаў рублёў. Акрамя таго, у іх канфіскаваны аўтамабілі "Форд" і "Жыгулі", на якіх перавозіліся нелегальныя мігранты.

**БелТА.**

## Беларуская асацыяцыя журналістаў атрымала з пракуратуры адказ на свой зварот

Беларуская асацыяцыя журналістаў (БАЖ) атрымала адказ з Пракуратуры Рэспублікі Беларусь на свой зварот на адрас генеральнага пракурора Алега Бажэлкі. У гэтым звароце праўленне БАЖ паведамляла аб наяўнасці службовага ліста галоўнага саветніка ўпраўлення сацыяльна-культурнай палітыкі Савета міністраў рэспублікі Барыса Балажынскага "Аб узмацненні контрпрапаганды выступленняў апазіцыйнай прэсы", які быў разасланы 26 сакавіка кіраўнікам міністэрстваў і іншых органаў дзяржаўнага кіравання. На думку членаў БАЖ, гэты дакумент парушае шэраг норм дзеючага заканадаўства і выключае магчымасць рэалізацыі правоў, замацаваных у Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Выкладзеныя ў лісце Б.Балажынскага забароны нельга растлумачыць інакш як дзеянні, якія яўна выходзяць за межы прадастаўленых яму службовых паўнамоцтваў.

Праўленне БАЖ прасіла генпракурора ўзбудзіць крымінальную справу ў адносінах да ўрадавага чыноўніка. Да звароту былі прыкладзены адпаведныя дакументы, уключаючы і пералік выпадкаў адмовы чыноўнікаў рознага ранга даць тую або іншую інфармацыю прадстаўнікам недзяржаўных СМІ.

У лісце з пракуратуры паведамляецца, што зварот праўлення БАЖ разгледжаны. Далей тлумачыцца, што "ў адпаведнасці з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь у кампетэнцыю органаў пракуратуры не ўваходзіць ажыццяўленне нагляду за выкананнем законнасці ў дзейнасці Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь". Каменціруючы гэты адказ, доктар юрыдычных навук Міхаіл Пастухоў назваў яго "адпіскай".

**Уладзімір ГЛОД, БелаПАН.**

**Открытым текстом**

## Что и кого защищаешь, господин Абрамович?

На днях взял в руки одну из пропрезидентских газет. Смотрю: доктор юридических наук, профессор, заместитель главы Администрации президента Александр Абрамович под рубрикой "Права человека: декларация и реальность" рассуждает совместно с журналистом о правах человека в Беларуси и неприемлемости для нашей страны политики "двойных стандартов". По Абрамовичу оказывается: у нас все прекрасно с правами человека. Особенно стало с ними хорошо после того, как в ноябре 1996 года референдум и президент Лукашенко ввели новую конституцию. Конституцию именно "двойных стандартов", которые, по мнению юриста Абрамовича, так неприемлемы для Беларуси. Кстати, г-н Абрамович один из тех специалистов по конституциям, который воплощал на бумаге замыслы президента. Для простых граждан — одно, для власти — другое. Для одних — права на бумаге, для других — возможность трактовать эти права, как им выгодно, объясняя все целесообразностью. В общем, одна рука дает права, другая забирает их в тот самый момент, когда стоит вопрос практической реализации права на свободу слова, информации, выражения мнения и т.д.

Почему же, построив все государство на принципе "двойного стандарта", власть, которой так верно служит Абрамович, не хочет терпеть проводимую, по его мнению, в отношении Беларуси политику "двойного стандарта".

Но и здесь г-н Абрамович не искренен. Принятая ООН Всеобщая декларация прав человека не терпит "двойных стандартов". Права человека или соблюдаются в государстве, или их нет. Декларация прав человека — закон для государства, если оно хочет быть в общем кругу демократических государств.

Стоит ли объяснять юристу Абрамовичу, что такое закон? Ведь он профессор и учит будущих защитников закона. Только вопрос: чему учит? "Двойным стандартам" в соблюдении законов, в умении оправдывать власть, которой служишь, когда она топчет Конституцию и законы?

Кстати, я бы посоветовал г-ну Абрамовичу и другим юристам, которые служат не закону, а хозяину, задуматься над таким вопросом: может ли закон "О защите чести и достоинства" защищать честь и достоинство, если их нет. Может, следует им разработать диссертационную тему "Законодательная защита чести и достоинства граждан при отсутствии у них оных"?

По моему мнению, если у гражданина есть честь и чувство собственного достоинства, то он не нуждается в особых законах защиты, тем более если при этом занимает высокое должностное положение в государстве. Если ты никого не оскорбляешь, блюдешь свои честь и достоинство, относишься уважительно к людям, гражданам, если тебя уважают за твои человеческие и деловые качества, если ты еще при этом и глава государства, так зачем тебе особый закон о защите чести и достоинства? Почему недостаточно тех законодательных актов, которые обеспечивают права и свободы граждан? Зачем же насаждать в Беларуси "двойной стандарт"? Таким образом защищаются от народа только диктаторы.

Одних, так называемых "слуг народа", защищают по-особому, а простой народ и ногами бьют, и в "каталажку" сажают, и зарплату не платят и т.д. При "двойном стандарте", который власть определила как государственную политику, простые граждане попадают в положение, когда "бьют и возмущаться не дают".

Введение закона о защите чести и достоинства президента при существующей Конституции, которую так любит г-н Абрамович, — это окончательная точка, теперь уже на законодательном уровне, по утверждению диктаторского режима.

Ведь одному человеку позволено всех оскорблять, на всех клеветать и всех обвинять. То у него депутаты все сплошь и рядом бездельники и воры, то члены профсоюзов через одного "жулики и алкоголики". А теперь уже и огрызнуться по типу "сам такой!" не дадут. Сразу — в тюрьму. Никто не будет разбираться, ведь все служат "хозяину": и суды, и прокуратура, и так называемые Палаты.

Я еще в 1996 году, пытаясь защищать Верховный Совет от лжи и клеветы, подал в суд исковое заявление на президента Лукашенко и главу Администрации Мясниковича. Но ни один из судов иск не принял. А это было еще во время действия Конституции 1994 года...

Времена изменились, и не в лучшую сторону. Наивно полагать, что защита чести и достоинства простых граждан, а также их права будут обеспечиваться. Скорее всего придется забыть всем о своих чести и достоинстве, ибо власть будет защищать честь и достоинство одного. Остальных же граждан режим превратит или уже превратил в людей второго и последующих сортов. Сортность же граждан будет определяться по лояльности к власти. Но один вопрос. А как будут смотреть депутаты Палаты в глаза своих граждан, принимая такие законы, если ситуация изменится?

**Александр БУХВОСТОВ, депутат Верховного Совета Республики Беларусь 13-го созыва.**

## "Газпрам" скараціў пастаўкі газу ў Беларусь

РАТ "Газпрам" аб'явіла 16 чэрвеня аб скарачэнні паставак газу ў Беларусь на 40 працэнтаў. Гэты крок матывуецца ростам пратэрмінаванай запазычанасці.

Як паведамілі карэспандэнту БелТА ў прэс-службе Савета міністраў, скарачэнне паставак пакуль не выклікае крытычных вынікаў для эканомікі рэспублікі. Цяпер намеснік прэм'ер-міністра Валерый Кокараў вядзе ў Маскве перагаворы з кіраўніцтвам кампаніі. Магчыма, што ўжо ў бліжэйшы час прыродны газ будзе паступаць у нашу краіну ў ранейшым аб'еме.

**БелТА.**

**Крымінал**

## Бог усё бачыць...

"Быццам антыхрыст умяшаўся", — так ахарактарызавалі некаторыя вернікі крадзеж у Брэсце на будаўніцтве аднаго з самых вялікіх у рэспубліцы праваслаўных храмаў — Свята-Уваскрасенскай царквы.

Як паведамілі ў прэс-службе УУС аблвыканкама, невядомыя, забраўшыся ў адзін з вагончыкаў будаўнікоў, выкралі дыскавую пілу "БОШ" і 14 балонаў з мантажнай пенай. Супрацоўнікі міліцыі далёкія ад думкі, што ўсё гэта — выхадкі нячыстай сілы. Актыўна вядуцца пошукі злодзеяў. А будаўнікі працягваюць дахавыя работы на купалах, якія ўжо блішчаць на 50-метровай вышыні.

**Іван КУКСА, БелТА.**

## 20 чэрвеня — апошні дзень падпіскі на "Народную волю"!

**Вы хочаце ведаць праўду?**
*Чытайце "Народную волю".*
**Вам патрэбна парада?**
*Калі ласка, звяртайцеся ў "Народную волю".*
**Вы любіце пачытаць, як кажуць, для душы?**
*Такія матэрыялы ёсць у кожным нумары "Народнай волі".*
**Словам, "Народная воля" — газета для народа.**
**Хто яшчэ не падпісаўся — зрабіце гэта да 20 чэрвеня.**
**Кошт на месяц — 45.000 рублёў.**

Ф.СП-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ на газету** 6 3 2 2 2 (індэкс выдання)

Народная Воля

Колькасць камплектаў

на 1998 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

ПВ | месца | літар

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА на газету** 6 3 2 2 2 (індэкс выдання)

Народная Воля

Кошт: падпіскі ______ руб.; пераадрасоўкі ______ руб. Колькасць камплектаў

на 1998 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)



**Надвор'е**

18 і 19 чэрвеня на тэрыторыі рэспублікі захаваецца пераменная воблачнасць; 18 чэрвеня ўначы — без ападкаў; удзень 18 чэрвеня і ўначы 19 чэрвеня — на ўсходзе, а ўдзень 19 чэрвеня — на большай частцы тэрыторыі рэспублікі дажджы, месцамі навальніцы. Тэмпература паветра ўначы +7...+12, удзень — +18...+23; 19 чэрвеня па ўсходзе рэспублікі ўначы +10...+15, удзень +22...+27.

